


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 верасня 2001 года
№ 36 (333)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

Навіны рэгіёна

## Датэрміновыя лічбы

У аўторак пачалося датэрміновае галасаванне па выбарах прэзідэнта. Пасля першых двух дзён у Вілейскім выбарчым участку прагаласавала – 6,7% выбаршчкаў, Смаргонскім – каля 5%, Астравецкім – 4-5%.

У Астраўцы старшыня выбарчай камісіі заўважыў, што лічбы прыблізныя. Там, па рэкамендацыі абласной камісіі, не падлічваюць колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі датэрмінова. У Ашмянах сказалі, што не маюць права збіраць звесткі па датэрміновым галасаванні з участковых камісій. У Мядзельскім мы не змаглі знайсці старшыню камісіі («звесткі толькі ў яго»). У Валожыне не захацелі называць лічбы па тэлефоне. Старшыні Маладзечанскай гарадской і раённай камісій адмовіліся даваць звесткі.

Сітуацыю каментуе кіраўнік цэнтра прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў **Міхаіл Пастухоў**:

– Заканадаўца не рэгулюе збор падобных звестак. Вынікі датэрміновага галасавання павінныя адлюстроўвацца ў журналах участковых камісій. Я лічу, што раённыя камісіі не збіраюць гэтыя звесткі, каб аб'яднаць вынікі датэрміновага галасавання і асноўнага. У Цэнтральнай камісіі па выбарах канкрэтныя лічбы, тым не менш, называюць.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Мытня прагаласавала

**АШМЯНЫ.** Відавочна, што значная колькасць людзей прагаласуе не ў дзень выбараў прэзідэнта. Супрацоўнікі Ашмянскай мытні па загадзе начальства ўдзел у выбарах узялі ў аўторак. Супрацоўнікаў, што былі на службе, аўтобусам прывозілі на выбарчыя ўчасткі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Адзіныя ў раёне класы

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Чысцінскай СШ (звыш за 1200 вучняў) сёлета працягвае работу адзіны ў раёне гурток паглыбленага вывучэння англійскай мовы. Выкладае ў ім **Галіна Яндоўская**. Адначасова ўпершыню ўводзіцца профіль па беларускай мове і літаратуры (кіраўнік **Ганна Скапец**).

Як расказала завуч **Алена Кізіна**, асаблівую ўвагу яны будуць надаваць развіццю сувязяў: "школа – ВНУ" і "школа – тэхнікум". Прычына таму – сёлета студэнтамі ВНУ сталі 18 вучняў, у вучылішчы і тэхнікумы паступілі 25.

Цікава, што **Марына Кісель** пры паступленні ў БДУ на аддзяленне паліталогіі набрала 40 балаў пры прахадным 30. Таксама запланавана адкрыццё "Навуковага таварыства вучняў" для таленавітых дзяцей.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Бывай, школа

**АСТРАВЕЦ.** Яшчэ адной школай на Астравеччыне стала менш. Раённы аддзел адукацыі прыняў рашэнне закрыць Алясінскую пачатковую школу.

У жніўні такі ж лёс напаткаў Дравяніцкую пачатковую школу. Абедзве яны зачыненыя з-за малой колькасці вучняў. Цяпер вучні гэтых школ будуць "грызці граніт навукі" у Градаўшчызненскай базавай школе, а дабірацца туды на маршрутным аўтобусе.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Міжнародная алімпіяда

**СМАРГОНЬ.** 29-31 жніўня прайшла міжнародная спартакіяда сярод работнікаў праваахоўных органаў.

7 каманд з памежных раёнаў Беларусі і 6 літоўскіх спаборнічалі ў міні-футболе, стральбе, армрэстлінгу, перацягванні каната, бегу, скачках і мнагаборстве. У агульным заліку перамагла каманда Шчучына. Трэцімі сталі ашмянцы. Гаспадары занялі 5 месца.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 8 верасня

**Мінск**
7 – 12°С (уначы)
13 – 16°С (удзень)



**Вільня**
8°С (уначы)
16°С (удзень)



Нядзеля, 9 верасня

**Мінск**
8 – 12°С (уначы)
14 – 18°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
14°С (удзень)



# М. Дамашкевіч дае ўказанні



Фота Ігара МАРОЗА.

**Старшыню Мінаблвыканкома ўважліва слухаюць рэдактар вілейскай райгазеты «Шлях перамогі» Рыгор Пагуда, дырэктар завода «Зеніт» Аляксандр Каравіцкі, старшыня Вілейскага райвыканкома Яўген Сініла.**

**ВІЛЕЙКА. З мэтай падрыхтоўкі да сустрэчы А. Лукашэнкі ў панядзелак горад наведаў старшыня Мінскага аблвыканкома Мікалай Дамашкевіч.**

Ён пабываў на газа-размеркавальнай станцыі, кацельні, заводзе «Зеніт». Кіраўнік вобласці выказаў незадавальненне арганізацыяй да магчымай сустрэчы з А. Лукашэнкам, якая мае быць сёння ў першай палове дня.

Ад кіраўнікоў будоўлі станцыі і завода «Зеніт» запатрабаваў ушчыльніць графік будаўнічага працэсу, аднавіць дарогу да кацельні, выдаў рэкамендацыі па навядзенні парадку на кацельні і заводзе.

М. Дамашкевіч зазначыў, што пры новым кіраўніцтве на Вілейшчыне пайшлі на лад справы ў жывёлагадоўлі і выказаў надзею, што будзе нарошчвацца вытворчасць прадукцыі раслінаводства. Ён прапанаваў галасаваць у нядзелю за аднаго з кандыдатаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў і віляйчанаў

# Як вы вучыліся ў школе?



**Святлана Карначова, загадчыца дзіцячага садка №12, Вілейка:**

– На "добра" і "выдатна". Больш за ўсё падабаліся літаратура і гісторыя. Да ўвядзення 10-бальнай сістэмы адзнак стаўлюся станоўча, бо дзецям іншы раз здаецца, што настаўнікі неадэкватна ацэньваюць іх веды. Мяркую, што новая сістэма адзнак у гэтым плане апраўдвае сябе.



**Святлана Фешчанка, навучэнка, Маладзечна:**

– Да 9 класа вучылася на адныя пяцёркі, потым былі і чацвёркі. Любімы прадмет – замежная мова. А ўвогуле, падабаліся ўсе. Вучылася па пяцібальнай сістэме. Дзесяцібальная шкала дапаможа школьнікам раскрыць свае здольнасці, а настаўнікам – пазбегнуць несправядлівасці.



**Наталля Скляр, хатняя гаспадыня, Маладзечна:**

– Вядома, у школе былі і пяцёркі, і двойкі. Падабаліся ўрокі матэматыкі і інфарматыкі. Я прывыкла да 5-бальнай сістэмы.



**Іна Апанасевіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Вучылася, як усе. Лепшы ўрок? Напэўна, праца. 10-бальную сістэму не разумею, бо вучылася па 5-бальнай і да яе прывыкла. Такім чынам новая сістэма нечым нагадвае Захад.



**Юра Клямяціч, навучэнец ПТВ-87, Маладзечна:**

– Атрымліваў двойкі і тройкі. Любіў фізіку, інфарматыку, працу. Лічу, лепш 5-бальная, бо складана прывыкнуць да новай, як мне казалі.



**Часлаў Хмылко, будаўнік, Маладзечна:**

– Даўно гэта было. Гісторыя і геаграфія падабаліся. Пра новую сістэму трэба спытацца ў майго сына, ён вучыцца і па 5-бальнай. Цяпер можна дакладней вызначыць веды вучня.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**Выбары-2001**



Да выбараў новага прэзідэнта засталося 2 дні

## Сустрэчы У. Ганчарыка

**СМАРГОНЬ. Чарговая сустрэча кандыдата ў прэзідэнты У. Ганчарыка з выбаршчыкамі прайшла ў будынку гарадскога Дома культуры.**

Напярэдадні ў горадзе было расклеена шмат улётак з запрашэннямі, а перад сустрэчай члены ініцыятыўнай групы адзінага кандыдата запрашалі смаргонцаў на вуліцах горада з мегафонам.

Шмат жыхароў горада азнаёміліся з праграмай Уладзіміра Ганчарыка, атрымалі адказы на пытанні. Смаргонцы жадалі адзінаму кандыдату ад шырокай грамадзянскай кааліцыі перамогі на выбарах.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Як галасавалі ў 1994 годзе

МЯДЗЕЛ. Сем год таму ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў **Аляксандр Лукашэнка** набраў у раёне 37,3% галасоў. Другі быў **Зянон Пазняк** – 26,1%, трэці **Станіслаў Шушкевіч** – 11,4%.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ «РГ»-АПЫТАННЕ

## Упершыню на выбары

МАЛАДЗЕЧНА. Моладзь заўсёды лічылася самай "капрызнай" часткай насельніцтва. Ёй хочацца, каб было больш свабоды, творчасці і навізны ва ўсім. Але каб увасобіць свае мары ў рэальнасць, ім трэба чакаць паўналецця. Першы раз ідуць на выбары прэзідэнта 18-гадовыя

**Вераніка Сокал, студэнтка БДУ:**

– Я ўжо вызначыла свайго кандыдата. Упэўненая, што ён паклапоціцца пра краіну і людзей, таму што ягоная праграма рэальная.

**Юлія Станевіч, студэнтка БДЭУ:**

– Ад новага прэзідэнта я чакаю зменаў у культуры і эканоміцы краіны. Шкада, што 60% адукацыі – платныя. Я хацела б, каб прэзідэнт быў добры і не меў карысных мэтаў.

**Андрэй Давыдоўскі, студэнт ПТВ-21:**

– Я хвалююся, калі іду на выбары. З трох кандыдатаў мне ніхто не падабаецца. Калі б я быў прэзідэнтам, я, перш за ўсё, падняў бы эканоміку і будаваў гарады па еўрапейскім стандарце. Някепска было б, калі б студэнтам паднялі стыпендыі і зрабілі бясплатны інтэрнат.

**Вольга Верстак, студэнтка гандлёва-эканамічнага каледжа:**

– Я хвалююся, таму што патрэбна зрабіць правільны выбар. Увогуле, прагаласую за таго, за каго ўсе. Хацелася б, каб прэзідэнт зрабіў больш для моладзі, таму што ад нас залежыць будучыня. Галасуйце за таго, за каго падказвае сэрца!

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

# Падрыхтоўка і правядзенне выбараў прэзідэнта

**Заканчэнне. Пачатак у №35.**

### Галасаванне

Галасаванне праводзіцца з 8 да 20 гадзін у спецыяльна адведзеных памяшканнях, дзе павінны быць абсталяваныя ў дастатковай колькасці кабіны або пакоі для тайнага галасавання, вызначаныя месцы выдачы бюлетэняў і ўстаноўленыя скрыні для галасавання. Скрыні ўстанаўліваюцца так, каб тыя, хто галасуе, пры падыходзе да іх абавязкова праходзілі праз кабіны ці пакоі для тайнага галасавання. Скрыні для галасавання павінны знаходзіцца ў полі зроку членаў участковай камісіі. У дзень выбараў, перад пачаткам галасавання, скрыні правяраюцца, пламбіруюцца ці апячатваюцца старшынёй участковай камісіі ў прысутнасці не менш чым 2/3 складу камісіі. Кожны выбаршчык галасуе асабіста, галасаванне за іншых асоб не дапускаецца.

Бюлетэнь для галасавання выдаецца выбаршчыку пад роспіс на падставе спісу грамадзян пасля прад'яўлення пашпарта ці засведчвання асобы, што заменяе яго. Бюлетэнь запаўняецца тым, хто галасуе, у кабіне або пакоі для тайнага галасавання. Пры запаўненні бюлетэня забараняецца прысутнасць каго б ні было, акрамя таго, хто галасуе. Выбаршчык, які не мае магчымасці самастойна запоўніць бюлетэнь, мае права запрасіць у кабіну для тайнага галасавання іншую асобу па сваім жаданні, акрамя членаў камісіі, кандыдатаў у прэзідэнты, іх davераных асоб.

Пры галасаванні выбаршчык ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за яго волевыяўленнем, выкрэслівае ў бюлетэні прозвішчы кандыдатаў, супраць якіх ён галасуе. У выпадку, калі выбаршчык лічыць, што пры запаўненні бюлетэня зрабіў памылку, ён мае права звярнуцца да члена участковай камісіі, які выдаў бюлетэнь, з просьбай выдаць яму новы замест сапсаванага. Член участковай камісіі, калі атрымае сапсаваны бюлетэнь, на якім павінен быць уласнаручны подпіс выбаршчыка, выдае выбаршчыку новы бюлетэнь, робіць адзнаку пра гэта ў спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, насупраць прозвішча выбаршчыка, што дапусціў памылку, сапсаваны бюлетэнь пагашаецца, пра што складаецца акт.

### Юрыдычная адказнасць

Асобы, якія перашкаджаюць шляхам насілля, пагроз, падману, подкупу або іншым чынам свабоднаму здзяйсненню грамадзянінам Рэспублікі Беларусь права ўдзельнічаць ці не ўдзельнічаць у выбарах, выбіраць і быць абраным прэзідэнтам, весці перадвыбарную агітацыю, якія перашкаджаюць рабоце камісій па выбарах прэзідэнта, якія займаюцца агітацыяй у дзень выбараў, а таксама члены камісіі, службовыя асобы дзяржаўных органаў і грамадскіх аб'яднанняў і іншыя асобы, якія здзейснілі падлог дакументаў па выбарах, заведама няправільны падлік галасоў або іншае скажэнне вынікаў галасавання, што парушыла тайну галасавання, якія не прадаставілі камісіям неабходныя дакументы ці не выканалі іх рашэнне, ці дапусцілі незаконнае выкарыстанне грашовых сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, ці здзейснілі іншыя парушэнні патрабаванняў Выбарчага кодэкса і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб выбарах, нясуць адказнасць, установленую заканадаўствам Беларусі.

### Падлік галасоў

Вынікі падліку галасоў разглядаюцца на пасяджэнні участковай камісіі. Лічыцца, што выбары прэзідэнта адбыліся, калі ў галасаванні ўзяло ўдзел больш за палову грамадзян, уключаных у спіс выбаршчыкаў. Прэзідэнт лічыцца абраным, калі за яго прагаласавала больш за палову грамадзян, якія ўзялі ўдзел у галасаванні. Калі ніводны з кандыдатаў не набраў неабходнай колькасці галасоў, то не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін, па рашэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі, праводзіцца другі тур галасавання па двух кандыдатах, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў.

Выбары ў другім туры галасавання лічацца адбыўшыміся, калі ў галасаванні ўзяло ўдзел больш за палову выбаршчыкаў, уключаных у спіс грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах. Абраным лічыцца кандыдат, які атрымаў у другім туры галасавання больш за палову галасоў выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у галасаванні.

Калі на выбарах прэзідэнта балатаваліся не больш за два кандыдаты і ніводны з іх не быў абраны, а таксама ў выпадку выбыцця ўсіх кандыдатаў або прызнання выбараў неадбыўшыміся або несапраўднымі, або другі тур галасавання не дазволіў вызначыць абранага прэзідэнта, Цэнтральная камісія рашае пытанне аб назначэнні паўторных выбараў з паўторным вылучэннем кандыдатаў. Пры гэтым яна можа прыняць рашэнне аб правядзенні выбараў тэрытарыяльнымі і участковымі камісіямі ў новым складзе.

**Дзмітрый СІНЯЎСКІ, памочнік старшыні суда г. Маладзечна.**

## Не больш за 3 пераносныя скрынкі

**У мінулым нумары "РГ" у артыкуле "Падрыхтоўка і правядзенне выбараў прэзідэнта" аўтар дапусціў недакладнасць.**

На ягоную думку, "ва ўчастковай камісіі павінна быць неабходная колькасць пераносных скрыняў для галасавання, колькасць якіх устанаўліваецца вышэйстаячай камісіяй". Адна́к, у адпаведнасці з ч. 1 арт. 54 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь "у гэтых мэтах ва ўчастковай камісіі павінна быць не больш як 3 пераносныя скрыні для галасавання".

**Аляксей ХВОСЦІК, юрыст.**

■ ПАДЗЕЯ

# Адкрыты помнік Агінскаму

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 верасня прайшло ўрачыстае адкрыццё помніка грамадска-палітычнаму дзеячу Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), кампазітару Міхалу Клеафасу Агінскаму.**

Аўтары помніка – мінскі скульптар **Валерый Янушкевіч** і маладзечанскі архітэктар **Аляксей Утулкін**.

Бронзавая фігура Агінскага стаіць на гранітнай калоне насупраць Маладзечанскага музычнага вучылішча, якое носіць імя гэтага славутага кампазітара. Побач праходзіць дарога, што звязвае Маладзечна са Смаргонню. У маёнтку Залессе з 1802 па 1810 год кампазітар жыў, а ў Маладзечне знаходзіўся маёнтак, што належаў старажытнаму роду беларускіх магнатаў Агінскіх.

У рамках адкрыцця адбыўся святочны канцэрт "Шляхам Агінскага" – перад гледачамі выступілі народны сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**У сераду, 5 верасня, ля помніка Агінскаму мы ўжо сустрэлі маладых. Добрая традыцыя нарадзілася імкліва.**

■ ДЗЕЦІ

## Сацыяльны прытулак

**ВІЛЕЙКА. Праз колькі тыдняў на базе дзіцячага садка №12 адкрыецца сацыяльны прытулак. Там будуць жыць дзеці-сіроты ці тыя, чыя бацькоў пазбавілі правоў.**

Перад тым, як адправіць дзіця ў інтэрнат, патрэбны час для афармлення дакументаў. Малыя і будуць гэты час жыць у прытулку. Там іх забяспечаць харчаваннем, яны будуць удзельнічаць у садкоўскіх мерапрыемствах.

Загадчык садка №12 **Святлана Карначова** гаворыць, што ў прытулку плануецца адкрыць 2 групы. У кожнай будзе не больш за 12 дзяцей. Цяпер рамантуюцца спальныя памяшканні для "навічкоў".

**Юрый КАРПІЦКІ. Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ АКЦЫІ

## «Рок-немаўля-2001»

**МАЛАДЗЕЧНА. 1-2 верасня ў трэці раз зладзілі ў горадзе рок-фестываль. Сёлета ён прайшоў пад лозунгам "Выбірай!". Арганізатарамі выступілі аддзяленне Таварыства беларускай мовы і маладзёжная кааліцыя "Пераменаў".**

Зала ДК чыгуначнікаў была запоўненая цалкам. Больш як дзесяць маладых рок-гуртоў рэпрэзентавалі публіцы свае творчыя пошукі. Традыцыйна было шмат мінчанаў. Яны адзначылі прафесійныя дзеянні міліцыі, якая сачыла за парадкам і не замінала моладзі весяліцца.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Запрашаем у гурткі

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны цэнтр дзіцячай творчасці запрасіў дзяцей у гурткі розных напрамкаў:** дэкаратыўна-прыкладнога, мастацкага, інтэлектуальнай сферы, вывучэння замежных моў і да т. п. Бясплатна. Жадаючых чакаюць па адрасе: Маладзечна, вул. Лібава-Роменская, 67, тэл. 70201, 77293.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДНІ



9 – Дзень танкіста.

10 – **90 год з дня нараджэння Г. Парсаданава** (1911–1989), заслужанага архітэктара Беларусі.

■ ІМЯНІНЫ

**7 верасня**
**Праваслаўныя**: Варфаламея, Міны, Ціта.
**Каталіцкія**: Рэгіны, Мельхёра.

**8 верасня**
**Праваслаўныя**: Наталлі, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Нараджэнне Прачыстае Дзевы Марыі. Радаслава.

**9 верасня**
**Праваслаўныя**: Анфісы, Пімена, Савы, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Пятра, Сяргея.

**10 верасня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Анатоля, Дзяніса, Захара, Паўла.
**Каталіцкія**: Лукаша, Мікалая.

**11 верасня**
**Праваслаўныя**: Івана Галавасек.
**Каталіцкія**: Прота, Яна, Яцка.

**12 верасня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Івана, Макара, Рыгора, Якава.
**Каталіцкія**: Марыі.

**13 верасня**
**Праваслаўныя**: Генадзя, Купрыяна.
**Каталіцкія**: Гвідона.

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, верасень**

7 – 9 "Кракадзіл Дандзі ў Лос-Анжэлесе", ЗША, камедыя, прэм'ера 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

10 – 16 "Эмануэль", Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-00

"Знаёмства з бацькамі (Прывітанне продкам)", ЗША, камедыя 15-00, 17-00, 19-00

**Для дзяцей**

9 – "Чорная курыца, або падземныя жыхары", Украіна 13-00

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Ніякай рэакцыі

**Звычайна, як паказвае практыка, любыя, а тым больш, прэзідэнцкія выбары абавязкова сказваюцца на змяненні курсу мясцовай валюты. Так было ў суседняй Расіі, калі не было поўнай упэўненасці ў перамозе Пуціна, і рубель страснуўся на пару працэнтаў. Так сама было і ў далёкіх Штатах, дзе шматдзённая гонка за Белы Дом прывяла да падзення курсаў акцый і самой амерыканскай валюты. Мы ж і тут вызначыліся: застаецца пару дзён, датэрміновае галасаванне ідзе на ўсю моц разам з агітацыяй адначасова, а наш рубель нават ніяк не рэагуе. Быццам гэта і не эпахальная падзея.**

Застаецца толькі радавацца. Хаця прычын некалькі. Па-першае, беларускаму рублю кранувца ўбок не даюць улады. Па-другое, хаця попыт стабільна перавышае прапанову валюты, вялікага дысбалансу няма, і ў патрэбны момант Нацбанк пойдзе на любыя інтэрвенцыі, каб пагасіць лішкі беларускіх рублёў і недахоп валюты. Застанецца на ўзроўні каля 1500 рублёў за долар і курс.

Нашмат важней, што будзе пасля. Перамога дазволіць уладам атрымаць часовую перадышку – ніякіх рашэнняў, якія кардынальна кранаілі б эканоміку і фінансы, не будзе пару месяцаў, чыноўнікі адсвяткуюць кампанію, дажынкі і раз'едуцца ў адпачынкі.

І толькі да зімы віток спіралі вечнай нашай хваробы – інфляцыі – раскруціцца да мяжы, цэны рэзка падскочуць, падскоча і курс зялёнага. І ўзровень 1700 рублёў за долар можа аказацца марай, якая не збылася.

З-за рэальнай адсутнасці магчымасці для перамены курсу ўкладчыкі таксама дэманструюць поўную апатыю – новых укладаў не робяць і старыя быццам не вельмі бягуць здымаць. Хаця банкі стаўку даходу давялі амаль да непрыстойнасці нізкую – 60%, што дае толькі 5% у месяц. Гэта добра цяпер, калі ў жніўні цэны падраслі толькі на 2%, гэтым можна будзе цешыцца і пазней, калі рост цэнаў застанецца ў запланаваным на год калідоры – 2–3% у месяц. Калі ж рост цэнаў будзе вышэйшы, то трымаць грошы ў рублях на рахунках і дэпазітах у банку робіцца стратным. Адзіны плюс – што не дома, пад падушкай, правакуючы злодзеяў і махляроў.

Па валютных укладах банкі таксама знізілі працэнты выплат. Толькі вялікія сумы на працяглыя тэрміны дазваляюць атрымаць 10% гадавых, амаль 1% у месяц. Давядзецца задавальняцца малым.

Да канца года чакаецца узбуйненне банкаўскай сістэмы, са стварэннем не 6 буйных і 20 малых, як цяпер, банкаў, а 10–15 салідных крэдытных устаноў. Гэта ўмацуе іх базу, узмацніць давер укладчыкаў і кліентаў.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Рыбу шукайце ў кіёсках




Фота Міхаіла ХАДАСЕВІЧА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Другі год запар доўжыцца "эпапея" з увядзеннем у строй рыбнага павільёна. Рыбай на рэчавым рынку гандлююць у непрыстасаваных кіёсках. А рыбны павільён пакуль закрыты. Здымак зроблены ў аўторак.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 30 жніўня | 6 верасня |
|---|---|---|
| Долар | 1445,00 руб. | **1455,00** руб. |
| Нямецкая марка | 673,80 руб. | **660,83** руб. |
| Літ | 361,34 руб. | **363,80** руб. |
| Расійскі рубель | 49,22 руб. | **49,41** руб. |
| Злоты | 342,38 руб. | **342,39** руб. |
| ЕЎРА | 1317,84 руб. | **1292,48** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1460 – 1480 руб. | **1470 – 1490** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 29.08 | 5.09 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | **2380** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7800 | **7980** |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | **3100** |
| Селядзец, 1 кг | 1720 | **1720** |
| Рыс, 1 кг | 530 | **530** |
| Грэчка, 1 кг | 410 | **400** |
| Цукар, 1 кг | 680 | **680** |
| Алей, 1 л | 990 | **1000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 600 | **600** |
| Маянэз, 200 г | 270 | **270** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | **1600** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 530 | **550** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 430 | **550** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | **350** |
| Капуста, 1 кг | 250 | **200** |
| Агуркі, 1 кг | 800 | **800** |
| Памідоры, 1 кг | 600 | **500** |
| Лімоны, 1 кг | 1600 | **1600** |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | **1550** |
| Кавуны, 1 кг | 300 | **300** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | **1000** |
| Масла, 1 кг | 2400 | **2500** |
| Тварог, 1 кг | 800 | **800** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | **1200** |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | **2000** |
| Морква, 1 кг | 400 | **400** |
| Брусніцы, малое вядро | 5000 | **4500** |
| Журавіны, малое вядро | | **5000** |
| Слівы, малое вядро | 1000 | **700** |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | **250** |

■ ЭКАНОМІКА І ВЫБАРЫ

# Што рабіць прэзідэнту

**Мы працягваем разважаць, што ж будзе з краінай пасля 9 верасня. І адважыліся (хаця і не лічым сябе карыфеямі ў эканамічных пытаннях) даць парады новаму ці старому прэзідэнту, што яму трэба будзе зрабіць пасля перамогі на выбарах. Ну, не дэфіцытам жа цукру займацца?**

Па-першае, неабходна даць рэальную ацэнку цяперашняга стану развіцця грамадства, параўнаць яго з суседнімі Польшчай, Літвой.

Па ступені эканамічнай свабоды Беларусь сёння на 129 месцы са 150 краін свету. Факт вядомы, які не аспрэчваецца нават афіцыйнымі асобамі. Яны аспрэчваюць іншае – катастрафічны ўплыў на эканоміку адсутнасці ў краіне эканамічнай свабоды.

Згодна з афіцыйнай прапагандай і статыстыкай, што яе абслугоўвае, дзяржаўнае рэгуляванне не толькі не перашкаджае паспяховаму развіццю краіны, але і фактычна яго забяспечвае. Гэты міф асабліва актыўна эксплуатуецца ў перадвыбарны час. А тое, што гэта менавіта міф, відаць дзякуючы лічбам і фактам:

– у нас нізкія тэмпы росту рэальнага сектара эканомікі;

– працяглы час захоўваецца высокая інфляцыя (самы хуткі рост цэнаў ва Усходняй Еўропе і СНД);

– нізкі ўзровень рэнтабельнасці прадпрыемстваў і, як вынік, адсутнасць інвестыцый, старэння фондаў;

– захаванне дэфіцыту бюджэту і пакрыцця яго пераважнай часткі грашовай эмісіяй;

– нізкія даходы насельніцтва і, у сувязі з гэтым, малая норма назапашвання зберажэнняў (мы толькі набліжаемся да аплаты ў 100 долараў кожнаму, хаця ў Польшчы сярэдняя зарплата – 320 долараў).

Адной з галоўных прычын цяперашняга эканамічнага крызісу з'яўляецца ўпартае імкненне ўладаў захаваць эканамічную дзяржманаполію, перашкодзіць развіццю і ўмацаванню новага для нашага грамадства сярэдняга класа – класа прыватных уласнікаў.

Хаця ўладу таксама зразумець можна – дзяржаўны манапалізм і ўсеагульная роўнасць у беднасці па-ранейшым з'яўляюцца асноўнымі стаўпамі падтрымкі цяперашняга курсу. Таму і ўкараняюцца самыя бязглуздыя ідэі ў свядомасць немалой колькасці людзей, якія ўтвараюць усім задаволены электарат нашага рулявога.

Ну, а што, усё ж, прэзідэнту ў гэтай сітуацыі рабіць? Брацца за работу, таму што ў краіне за незапатрабаванасцю засталіся адкладзеныя на доўгія гады звычайныя рэформы, праз якія прайшлі ўсе посткамуністычныя краіны. Каб зноў не згубіць чарговую "пяцігодку", спіс рэформаў вядомы:

– прыватызацыя (увядзенне прыватнай уласнасці ва ўсіх дзяржавах Усходняй Еўропы прывяло да росту аб'ёмаў і эфектыўнасці вытворчасці, павышэнню якасці прадукцыі);

– падатковыя, фінансавыя, структурныя рэформы ва ўсіх галінах эканомікі;

– зацвярджэнне спрошчанай працэдуры рэгістрацыі бізнесу, адмена празмернага ліцэнзавання і сертыфікавання (у нас ліцэнзуецца 150 відаў прадпрымальніцкай дзейнасці, у Польшчы – 14);

– недапушчэнне валюнтарысцкай практыкі праверак і рэвізій;

– захаванне зразумелага і, галоўнае, стабільнага заканадаўства.

Мы можам і павінныя жыць лепш. Краіна можа перастаць быць ізгоем у свеце, і грамадзянам не давядзецца хаваць, што яны з Беларусі.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Калі тавар няякасны, правілы гульні дыктуе спажывец

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарка горада купіла на рынку гардзіннае палатно. Калі яна прыйшла дадому і развярнула яго, то ўбачыла амаль па цэнтры вытворчы брак. Яна пайшла на рынак, паказала брак і папрасіла замяніць палатно. Прадавец згаджаецца толькі скінуць цану.**

Тлумачыць сітуацыю юрыст **Аляксандр Жураўлёў**:

– У артыкуле 10 закона "Аб абароне правоў спажыўцоў" гаворыцца: "спажывец мае права па сваім выбары ці на растаржэнне дагавора, ці на замену тавара на аналагічны тавар належнай якасці, ці на суразмернае змяншэнне цаны, ці бязвыплатнае ўхіленне недахопаў тавару, ці кампенсацыю выдаткаў па ўхіленні недахопаў".

Толькі, каб гэты артыкул уступіў у сілу ў дадзеным выпадку, патрэбнае заключэнне экспертызы, што гэта менавіта вытворчы брак. Тады спажывец можа патрабаваць замяніць тавар, і прадавец абавязаны будзе гэта зрабіць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ БЮДЖЭТ

# Тры прадпрыемствы не будуць плаціць у бюджэт

**МАЛАДЗЕЧНА. ААТ "Радашковіцкі керамічны завод", ААТ "Маладзечанская кардонная фабрыка "Раёўка" і ААТ "Маладзечналес" атрымалі ад райсавета дэпутатаў адтэрміноўку па плацяжах у мясцовы бюджэт.**

Мэта – аздараўленне фінансавага становішча гэтых арганізацый.

Ад выплат у рэспубліканскі бюджэт іх ужо вызвалілі. Цяпер райсавет адправіць хадайніцтва ў аблсавет, які на наступнай сесіі мусіць вызваліць прадпрыемствы ад плацяжоў і ў абласны бюджэт.

Пакуль жа даўжнікі завінаваціліся ў райбюджэт ад 4,3 да 41,4 мільёнаў рублёў. Тэрмін пагашэння даўгоў – 2002-2003 гады.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Бомж гандляваў патронамі

**СМАРГОНЬ. Днямі ў горадзе мужчына, які нідзе не працуе і не мае прапіскі, заняўся прадпрымальніцкай дзейнасцю: зарабляў на хлеб продажам баявых патронаў.**

Знайшліся і пакупнікі. Адзін, пакуль невядомы, разжыўся ў бамжа на трынаццаць патронаў калібру 4,45 мм і дваццаць пяць 5,6 мм.

Супрацоўнікі міліцыі высвятляюць, дзе бомж узяў патроны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Залатая восень

Узбуджаная крымінальная справа ў адносінах да начальніка цэха вілейскага завода "Зеніт". На працягу паўгода яна сістэматычна прысвойвала таварна-матэрыяльныя каштоўнасці прадпрыемства. Агульная сума растраты склала паўмільёна рублёў.

За прычыненне маёмаснага ўрону на суму 637 тысяч рублёў узбуджаная крымінальная справа супраць старшага эканаміста маладзечанскага аддзялення "Белаграпрамбанка". За час вучобы ў Гомельскім кааператыўным інстытуце ім штогод прадастаўляліся фіктыўныя даведкі з працоўнай кніжкі як работніка сістэмы спажыўкааперацыі. На падставе выпісак навучанне праходзіла за кошт Белкаапсаюза.

**Падрыхтаваў Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ВЫБРАНАЕ

# Некаторыя тэзісы з перадвыбарных праграм кандыдатаў у прэзідэнты



Сяргей Гайдукевіч.

Я па-ранейшым буду дапамагаць людзям, толькі для гэтага ў мяне будзе больш магчымасцяў. Я абяцаю, што ўжо хутка вы адчуеце сябе забяспечанымі людзьмі.

### Даходы

1. Зніжэнне стаўкі падатку на даходы да 13%. Увядзенне падатку на маёмасць у выглядзе абавязковага страхавання.

2. Істотныя падатковыя ільготы для інвестараў.

3. Змяншэнне платы за транзіт транспарту і грузаў.

4. Планавае скарачэнне арміі з пераходам на прафесійную аснову і рэформа сілавых ведамстваў.

5. Рэарганізацыя дзяржаўнага апарату і кантрольных службаў.

6. Прыватная ўласнасць на зямлю для грамадзянаў Беларусі.

7. Экспарт канкурэнтаздольнай прадукцыі па дэмпінгавых цэнах.

8. Павелічэнне экспарту ўзбраенняў.

9. Арганізацыя і павелічэнне транспартнага турызму.

Ажыццяўленне мер дазволіць павысіць жыццёвы ўзровень у 3-4 разы. У столькі ж раз павысяцца пенсіі.

### Жыллё

У першы год наша праграма "Свой дом" дазволіць 28% грамадзянаў, што стаяць у чарзе, атрымаць асобныя кватэры. Астанія паэтапна атрымаюць жыллё на працягу сямі год.

### Медыцына

Будзе створаная сістэма дзяржаўнага медыцынскага страхавання.

### Сям'я

1. Забяспечыць жанчын, якія выхоўваюць трох і больш дзяцей, правам выхаду на пенсію на 5 год раней.

2. Жанчынам, якія выхоўваюць дзяцей да трохгадовага ўзросту, кожны месяц плаціць сярэднюю па краіне заработную плату.

3. Жанчынам, якія знаходзяцца ў адпачынку па догляде за дзіцем, гарантуецца захаванне рабочых месцаў.

### Моладзь

Задачы: забеспячэнне занятасці моладзі, падтрымка маладзёжнага прадпрымальніцтва, магчымасць атрымання крэдытаў для аплаты навучання і будаўніцтва жылля.

### Культура і навука

Адраджэнне і развіццё культурнай спадчыны краіны не могуць быць адкладзеныя на больш позні тэрмін, калі вырашацца эканамічныя праблемы.

### Іншае

Я выгадна адрозніваюся ад іншых кандыдатаў на вышэйшую дзяржаўную пасаду. І ўжо мільёны грамадзянаў краіны сёння гатовыя падтрымаць мяне на выбарах.

---



Уладзімір Ганчарык.

### Эканоміка

Гарантую аднаўленне вяршэнства Закону, у тым ліку, над дэкрэтамі і ўказамі прэзідэнта. Будзе забяспечаны заяўны прынцып рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарчай дзейнасці.

Будуць скарочаныя нерацыянальныя дзяржаўныя расходы.

На працягу года зменіцца сістэма падаткаў у бок іх зніжэння і спрашчэння, скароціцца колькасць ліцэнзуемых відаў дзейнасці. Будуць спрошчаныя мытныя працэдуры і зніжаныя пошліны.

Падтрымка вытворцаў на вёсцы будзе забяспечвацца праз фінансаванне мэтавых праграм, захаванне парытэту цэнаў на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю.

Калгасам і саўгасам будзе прадастаўлена права добраахвотна пераўтварацца ў самастойныя аб'яднанні таваравытворцаў на аснове свабоднага выбару формаў уласнасці і арганізацыі вытворчасці.

### Сацыяльная сфера

На працягу года будзе праведзеная рэформа заработнай платы. Устаноўленая адзіная стаўка падаходнага падатку.

Будзе забяспечаная своечасовая выплата пенсій і дапамог, павышаны іх памер. Адноўленыя льготы ветэранам вайны і працы, інвалідам, ахвярам палітычных рэпрэсій, пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. Палепшыцца забеспячэнне ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і прыраўнаваных да іх асоб. Будзе праведзеная кампенсацыя банкаўскіх укладаў насельніцтва з улікам росту спажывецкіх цэнаў.

Далейшае развіццё атрымае будаўніцтва жылля, ільготная крэдытная падтрымка грамадзян. У першую чаргу, маладых сем'яў.

Будзе перагледжаны статус "чарнобыльскіх" раёнаў. Зняты перашкоды для атрымання гуманітарнай дапамогі.

### Дзяржаўнае будаўніцтва

Гарантую:

1. Перагледзець і пашырыць правы і паўнамоцтвы парламента, урада, органаў мясцовага самакіравання.

2. Аб'яднаць усе дзяржаўныя сродкі і фонды, акрамя Фонду сацыяльнага страхавання, у кансалідаваны дзяржаўны бюджэт.

3. Аднавіць кантроль парламента і мясцовых Саветаў за выкананнем бюджэтаў усіх узроўняў, выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці.

За першыя 100 дзён будзе праведзеная рэабілітацыя незаконна асуджаных, аднаўлёныя правы незаконна звольненых, забаронены законам палітычны вышук і сачэнне.

Будзе адноўленая незалежнасць судовай сістэмы, выбарнасць суддзяў усіх узроўняў, палепшаная работа праваахоўных органаў, іх аўтарытэт сярод насельніцтва.

Будзе праведзеная рэформа Узброеных Сіл. У гэтых мэтах будзе палепшанае матэрыяльнае забеспячэнне, узняты статус ваеннаслужачых, скарочаны тэрмін ваеннай службы, ажыццёўлены паступовы пераход да прафесійнай арміі.

Будуць створаныя неабходныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры і мовы, прымянення нацыянальнай гістарычнай сімволікі.

### Знешняя палітыка

Шукаць сяброў, а не ворагаў. Прыярытэт — інтарэсы народа Беларусі.

Гарантую пераадольванне міжнароднай ізаляцыі Беларусі. Уступленне Беларусі ў агульнаеўрапейскія структуры.

### Іншае

Са мной — каманда прафесіяналаў: эканамістаў і юрыстаў, урачоў і педагогаў, работнікаў навукі і культуры, кіраўнікоў вытворчасці. Са мной — людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, жыхары горада і вёскі, моладзь і пенсіянеры.

Наша праграма заснаваная на здаровым сэнсе, эканамічным інтарэсе і палітычнай волі. Каб выканаць яе, падрыхтаваны эканамічна і сацыяльна абгрунтаваны план практычных дзеянняў будучага ўрада.

Мы не абяцаем — мы робім!

---



Аляксандр Лукашэнка.

Мы ўтрымалі краіну ад развалу і анархіі, рэлігійнага расколу і міжнацыянальнай варожасці; зберaглі агульнанародную ўласнасць. Беларусь — адна з найменш карумпіраваных дзяржаў свету. Згодна з індэксам чалавечага развіцця ААН Беларусь апярэджвае ўсе рэспублікі былога Савецкага Саюза і большасць краін Усходняй Еўропы.

Мы пабудавалі сапраўды незалежную і суверэнную дзяржаву, з якой лічацца як на Захадзе, так і на Усходзе.

### Мэты

Рэзкае павышэнне дабрабыту. Убудоўванне беларускай эканомікі ў сістэму сусветных гаспадарчых сувязяў.

### Прыярытэты

1. Экспарт.

2. Жыллё. Будзем будаваць пераважна на вёсцы, развіваць малыя гарады і пасёлкі.

3. Прадукты харчавання. Дзяржаўная ўласнасць на землі сельскагаспадарчага прызначэння будзе захаваная.

4. Навука і здароўе. Яны стануць галоўнымі інструментамі дзяржаўнай палітыкі.

### Палітычныя гаранты

1. Захаванне асноўных канстытуцыйных правоў і свабод чалавека: на жыллё, на работу, на абарону ад незаконнага ўмяшальніцтва ў асабістае жыццё, права ўласнасці.

2. Роўнасць усіх грамадзян перад законам.

3. Прынцып асноўных рашэнняў стратэгічнага развіцця краіны толькі праз раду з народам (рэферэндум, Усебеларускі сход).

4. Свабода слова.

5. Рэальная роўнасць беларускай і рускай моў.

### Сацыяльна-эканамічныя гаранты

1. Сярэдняя зарплата дасягне 250 долараў у месяц. Настаўнік, урач, вучоны будуць атрымліваць зарплату ў 1,2 — 1,5 разы вышэйшую за сярэднюю.

2. Цэнаўтварэнне. Да моманту стабілізацыі цэнаў на жыццёва важныя групы тавараў яны будуць пад кантролем дзяржавы.

3. Лібералізацыя эканомікі. Будзе спрошчаны працэс рэгістрацыі прадпрымальніцкіх структур. Колькасць ліцэнзуемых відаў дзейнасці скароціцца да 10-12.

4. Работа. Будзе заахвочвацца малы і сярэдні бізнес.

5. Падтрымка пенсіянераў гарантуецца. Пенсіі за 5 год павысяцца больш, як у 2 разы.

6. Адукацыя. Кожнаму жадаючаму і здольнаму гарантуецца магчымасць атрымання вышэйшай адукацыі.

7. Медыцына. Захаваецца бясплатная медыцынская дапамога.

8. Барацьба з алкагалізмам, курэннем і наркаманіяй.

### Пытанні асаблівай важнасці

Суверэнітэт. Унутрапалітычная стабільнасць. Знешняя бяспека дзяржавы. Энергетычная бяспека.

### Іншае

За гады прэзідэнцтва я пражыў цяжкае і доўгае жыццё. Але гэта быў яркі перыяд майго жыцця. За мае ўчынкі вам ніколі не было і не будзе сорамна!

---

**Удумлівы чытач можа параўнаць праграму А. Лукашэнкі 7-гадовай даўніны з тым, што ён зрабіў за гэты тэрмін. Прапануем некаторыя тэзісы з перадвыбарнай праграмы Аляксандра Лукашэнкі, з якой ён перамог на выбарах прэзідэнта ў 1994 годзе.**

### Мэты

Спыненне росту коштаў і збяднення насельніцтва. Барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структураў, што кіруюць у дзяржаве. Аднаўленне сувязяў з дзяржавамі былога СССР.

### Як дасягнуць гэтых мэтаў?

Усталяванне дзяржаўнага кантролю за цэнаўтварэннем. Усталяванне заканадаўчых умоваў, калі рост вытворчасці прадукцыі і паніжэнне выдаткаў стануць адзінымі законнымі і магчымымі фактарамі для павелічэння прыбытку і заробку. Увесь прырост прыбытку за кошт неабгрунтаванага павышэння цэнаў будзе забірацца ў бюджэт праз штрафныя санкцыі. Павысіцца самастойнасць Нацыянальнага банку Беларусі. Скароцяцца выдаткі дзяржавы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату.

**Кіраванне эканомікай.**

Захаванне практыкі, калі расце дзяржаўны апарат, зніжаецца адказнасць чыноўнікаў за стан спраў, робіць бессэнсоўнай распрацоўку любых праграмаў рэфармавання, бо яны адразу асуджаныя на няўдачу.

**Ажыццяўленне інвестыцыйнай палітыкі**

1. Паступовае і істотнае павелічэнне рэсурсаў доўгатэрміновага крэдытавання пры адначасовым зніжэнні ставак.

2. Стварэнне надзейнай прававой сістэмы страхоўкі і перастрахоўкі камерцыйнай рызыкі.

### Сельская гаспадарка

Дзяржава павінная гарантаваць сельскай гаспадарцы не датацыі, а парытэт цэнаў на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. Прэзідэнт выступае супраць развалу сістэмы калгасаў і саўгасаў, але будзе падтрымліваць працэс іх пераўтварэння ў гаспадаркі.

### Прамысловасць

Будуць прынятыя ўсе неабходныя меры дзеля стварэння ўмоваў для захавання рынкаў сыравіны і збыту ў бліжнім замежжы, выхаду беларускіх тавараўвытворцаў на рынкі Еўропы, Азіі і іншых кантынентаў. Дзяржаўная падтрымка прадпрыемствам сельскай гаспадаркі, прамысловасці і будаўніцтва будзе аказвацца незалежна ад іх формы ўласнасці.

### Армія

Прэзідэнт прыме ўсе меры да аднаўлення прэстыжу вайсковай службы, уключна з вырашэннем пытанняў сацыяльнай абароны і матэрыяльнага забеспячэння вайскоўцаў.

### Прыярытэты сацыяльнага характару

Дзяржаўнае рэгуляванне пражытачнага мінімуму і падцягвання да яго мінімальнай заработнай платы. Дзяржаўнае рэгуляванне прыбыткаў насельніцтва шляхам прагрэсіўнага падаткаабкладання. Рэалізацыя дзяржаўных праграмаў падтрымкі сям'і, мацярынства і дзяцінства. Індэксацыя працоўных укладаў насельніцтва. Накіраванне дапамогі пацярпелым ад аварыі ў Чарнобылі не ў рукі чыноўнікаў, а тым, хто мае ў ёй патрэбу. Законнасць, барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных кланаў.

Прэзідэнт увядзе дыктатуру Закону і стане гарантам яго захавання. Органы дзяржаўнай улады і кіравання, праваахоўная сфера, суды будуць ачышчаныя ад асобаў, што дыскрэдытуюць уладу ў вачах народу. Будзе палепшаная матэрыяльна-тэхнічная і нарматыўная база дзейнасці міліцыі, пракуратуры, судоў. Павышаная іх адказнасць і незалежнасць у служэнні Закону.

### Навука, культура і адукацыя

1. Будзе распрацаваная дзяржаўная праграма па падтрымцы і развіцці навукі, што прадугледжвае меры па паляпшэнні матэрыяльнага становішча прафесарска-выкладчыцкага складу і студэнтаў.

2. У сферы адукацыі галоўнымі будуць прынцыпы даступнасці, бясплатнага атрымання адукацыі.

3. Асаблівым клопатам прэзідэнта павінна стаць беларуская нацыянальная культура.

### Знешняя палітыка

Прэзідэнт прыкладзе ўсе намаганні дзеля павышэння міжнароднага прэстыжу, стварэння і падтрымкі на патрэбным узроўні рэпутацыі Беларусі як надзейнага і выгаднага партнёра, актыўнай удзельніцы міжнароднай і рэгіянальнай палітыкі.

### Іншае

Я не абяцаю вам малочных рэкаў і кісельных берагоў. Не хачу хлусіць. Нам усім давядзецца расплачвацца за тое, што мы так доўга трывалі неапраўданую палітыку даўно збанкрутаванага ўраду. Адвесці народ ад бездані — вось першапачатковая задача для прэзідэнта.

Падрыхтаваў
**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Як жыць далей будзем?

Кожны раз, калі трэба зрабіць выбар, мы задаем сабе пытанне: "Што ўзамен?" Пра гэта мы гутарым сёння з адзіным кандыдатам на пост прэзідэнта ад дэмакратычных сіл Уладзімірам Ганчарыкам.

**– Як жыць далей будзем, Уладзімір Іванавіч?**

– Як народ вырашыць. Ці будзем працягваць існаваць у цяперашняй беднасці, страху і бяспраўі або зменім жыццё да лепшага.

**– Гэта як?**

– Вельмі проста. У Беларусі яшчэ захоўваюцца вялікія магчымасці. Для адчувальнага паляпшэння дастаткова для пачатку спыніць здзекі над эканомікай і пачаць жыць па агульнапрынятых законах.

**– Цяпер вы, напэўна, скажаце, што ваша каманда прапануе для павышэння дабрабыту грамадзян новую стратэгію, эканамічную і сацыяльную палітыку...**

– Гэта спраўды так. Але я гаварыў бы не толькі пра навізну. Увесь комплекс неабходных мер даўно і добра вядомы. Вынаходзіць веласіпед я не збіраюся.

**– Наколькі мне вядома, адзін з ключавых пунктаў вашай праграмы – зніжэнне падаткаў. Але ж гэта азначае, што грошай у бюджэце будзе менш.**

– Гэта значыць, што грошай у бюджэце будзе больш. Калі ў Расіі ўвялі адзіны 13-працэнтны падаходны падатак, у казну пачалі паступаць больш значныя сумы. Ды і Рэйган выцягнуў Амерыку з крызісу ў пачатку васьмідзесятых за кошт зніжэння падаткаў. Так што і нам трэба паслабіць падатковы цяжар.

Пры цяперашняй сістэме падаткаабкладання часта здараецца, што ты вырабіў, але яшчэ не прадаў тавар, а ўжо плаціш падаткі. Гэта прыводзіць да таго, што ў прадпрыемстваў не застаецца абаротных сродкаў. У выніку яны вымушаныя набываць камплектуючыя і сыравіну ў пасрэднікаў, з якімі можна разлічыцца таварам, а не грашыма. Гэта адразу павялічвае затраты на вытворчасць і, адпаведна, цэны на прадукцыю.

**– Гэта агульныя словы. Падобныя абяцанні даюць усе ці амаль усе прэтэндэнты на пост кіраўніка дзяржавы.**

– Для таго, каб патлумачыць, як усё гэта робіцца, трэба будзе гаварыць на прафесійнай мове і выкарыстоўваць спецыяльную тэрміналогію. Я гатовы, але ці будзе гэта цікава чытачу?

**– Не трэба макраэканамічных выкладак. Патлумачце, як вы намераныя рашаць праблемы, праз канкрэтныя дзеянні. Напрыклад, ва "ухіленні перашкод", пра якія мы толькі што гаварылі.**

– Увесці заяўны прынцып рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання – раз. Значна скараціць колькасць ліцэнзуемых відаў дзейнасці – два. Адмовіцца ад залішняга кантролю (кантралёраў у нас за апошнія гады развялося ці не больш, чым тых, хто працуе. Прадпрыемствы вымушаныя ўтрымліваць цэлыя аддзелы, якія складаюць нікому не патрэбныя паперы, а потым маса людзей іх яшчэ правярае) – тры. Усё гэта і многае іншае можна зрабіць лёгка і без затрат. Было б жаданне.

Ніхто не мае права абмяжоўваць вытворцу ў тым, каму і па якой цане прадаваць выраблены тавар. Неабходна зняць усе адміністрацыйныя абмежаванні на рэнтабельнасць вытворчасці.

Дзяржаўныя органы не павінны напрамую ўмешвацца ў працэс цэнаўтварэння.

Адна з важнейшых задач – умацаваць беларускі рубель, спыніць інфляцыю. А для гэтага трэба перастаць друкаваць пустыя грошы, падтрымаць тых, хто прыносіць краіне валюту, збалансаваць крэдытна-фінансавую сістэму.

Інтарэсы вытворцаў павінны ўлічваць і банкі. Сёння стаўка рэфінансавання ў памеры 60% – адна з прычын таго, што інфляцыя ў Беларусі самая высокая ў СНД. Што атрымліваецца: да прыкладу, піўзавод на крэдытныя сродкі закупляе ў жніўні ячмень і ўвесь год варыць з яго піва. У выніку майскае піва за кошт працэнтаў па крэдыце выходзіць працэнтаў на 70 даражэйшае. Наогул, разлікі па банкаўскіх крэдытах часта ў 2–3 разы перавышаюць фонд заработнай платы. Куды гэта варта? Стаўку рэфінансавання ў нацыянальнай валюце трэба прывязаць да агульнапрынятай у свеце (6–10%) плюс 1–2%: тады і інфляцыя будзе значна меншая. Акрамя таго, працэнтныя стаўкі і падаткаабкладанне банкаў павінны быць дыферэнцыраваныя ў залежнасці ад таго, крэдытуюць яны вытворчую дзейнасць ці гандлёвыя аперацыі.

**– Давайце перанясемся з горада ў вёску. Што там рабіць? Калгасы разганяць?**

– Навошта ж разганяць? Давайце шукаць залатую сярэдзіну. Галоўная праблема заключаецца ў тым, што селянін за сваю цяжкую працу атрымлівае капейкі. Чаму ён павінен мець меншыя грошы, чым плацяць на заводзе?

Што, работа на зямлі лягчэйшая?Змяніць цяперашняе становішча можна пры захаванні як мінімум двух умоў: прадастаўлення права сялянам распараджацца выпрабленым прадуктам па ўласным жаданні і ўстанаўлення нармальнага парытэту цэнаў на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю.

**– Пра гэта Лукашэнка яшчэ ў 1994 годзе гаварыў!**

– Ён гаварыў, а я зраблю. Прычым не адміністрацыйнымі, а эканамічнымі метадамі. Пры гэтым нельга не ўлічваць, што сяло ў нас давялі да ручкі і без мэтавай дзяржаўнай падтрымкі яму ў любым выпадку не абысціся.

**– На мой погляд, Беларусь мае патрэбу ў рэформе сістэмы дзяржаўнага кіравання. Многіх хвалюе пытанне: ці будзе распушчаны Нацыянальны сход? Гэты ж заканадаўчы орган быў сфарміраваны са шматлікімі парушэннямі.**

– Я адкажу на гэтае пытанне крыху пазней, паколькі ўпэўнены, што абсалютную большасць людзей куды больш клапоціць уласны дабрабыт, а не лёс парламента.

Нежаданне кіраўніцтва краіны прыслухоўвацца да чыйгосьці голасу стала адной з прычын, па якіх я вырашыў узяць удзел у барацьбе за пост кіраўніка дзяржавы. У іншым выпадку мне давялося б проста назіраць за тым, як бяздарна ўпускаюцца магчымасці зрабіць права на дастойнае жыццё для кожнага рэальнасцю.

**– Ці могуць у выпадку вашай перамогі на выбарах разлічваць на сур'ёзную падтрымку дзяржавы ахова здароўя, навука, адукацыя, культура?**

– А што можа быць важнейшае за здароўе? У выпадку маёй перамогі на выбарах, у 2002 годзе выдаткі на медыцыну будуць як мінімум падвоеныя. Як і на навуку, адукацыю і культуру. Іншая справа, што бедная дзяржава не можа нікога ўсур'ёз падтрымліваць. Каб аддаць сродкі, іх трэба спачатку недзе ўзяць.

**– Вось-вось. Планы ў вас цудоўныя, аднак у падвалах Нацбанка мышы даядаюць апошнія абгорткі ад грошай. Дзе ж вы возьмеце на ўсё: і на сацыяльную абарону, і на сельскую гаспадарку, і на культуру?**

– У эканоміцы, якая эфектыўна працуе. У нас невычэрпныя рэсурсы – адукаваны, таленавіты, працалюбівы народ і ідэальнае геапалітычнае становішча Беларусі. Лепшае, чым у Швейцарыі. Акрамя ўсім вядомых магчымасцяў, звязаных з транзітам, ёсць яшчэ шэраг шляхоў дынамічнага развіцця. Зняцце абмежаванняў на ўвоз перадавых тэхналогій, спрашчэнне мытных працэдур, стымуляванне ўнутраных і знешніх інвестыцый дазволіць аснасціць на самым сучасным узроўні прамысловасць і сельскую гаспадарку, што абавязкова пацягне за сабой стварэнне новых рабочых месцаў. А турызм! Беларуская прырода – адзін з прыгажэйшых куточкаў зямнога шара.

**– Давайце вернемся да рэформы сістэмы ўлады.**

– Паўнамоцтвы парламента павінны быць перагледжаныя і расшыраныя, як і правы мясцовых органаў улады і самакіравання. Асабліва падкрэслю неабходнасць кантролю з іх боку за выкананнем бюджэтаў і выкарыстаннем дзяржуласнасці.

Вельмі важна аднавіць незалежнасць судовай сістэмы і рэальна гарантаваць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян. Дапушчаныя злоўжыванні і памылкі будуць выпраўленыя на працягу першых ста дзён пасля перамогі на выбарах. Гаворка ідзе пра рэабілітацыю асуджаных па палітычных матывах, аднаўленні незаконна звольненых за ўдзел у забастоўцы работнікаў мінскага метрапалітэна і ліквідацыі іншых несправядлівасцяў. Праваахоўныя органы павінны змагацца не з апазіцыяй, а са злачыннасцю, карупцыяй, лепш абараняць маёмасць грамадзян. Але прадэкляраваць гэта недастаткова: перш чым пытацца з той жа міліцыі, трэба даць нармальнае матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне. Трэба вярнуцца да пенсійнай сістэмы для работнікаў праваахоўных органаў, якая існавала раней і якую адмяніў Лукашэнка. Назначаць на кіруючыя пасады прафесіяналаў, а не "сваіх людзей". Гэта ж тычыцца і арміі. Наіўна спадзявацца мець дзеяздольныя Узброеныя сілы і адпаведна забяспечваць абараназдольнасць краіны без павышэння сацыяльнага стаусу ваеннаслужачых, падтрымання прэстыжу іх прафесіі не толькі на маральным узроўні, але і матэрыяльным. Павінна вырашацца пытанне аб увядзенні альтэрнатыўнай службы, а ў ідэале – здзейснены паступовы пераход да прафесійнай арміі.

**– Што чакае партыі і прафсаюзы?**

– Усё тое ж, што ў цывілізаваным свеце: забеспячэнне ўмоў для законнай дзейнасці.

**– Як будзем будаваць стасункі са светам?**

Шукаць і знаходзіць сяброў, а не ворагаў, заўсёды ставіць у аснову асноў інтарэсы Беларусі. Яе народа. Упэўнены, што міжнародную ізаляцыю нашай краіны мы пераадолеем імгненна. Стаўка будзе рабіцца на развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з усімі краінамі свету. Ну, а асноўны накірунак – разам з Расіяй у Еўропу.

**– І "на закуску" маглі б вы вельмі каротка сфармуляваць свой галоўны жыццёвы прынцып як чалавека і кіраўніка?**

– Дзейнічаць разумна, пагаспадарску, знаходзіць аднадумцаў. У адзінстве – сіла! Не абяцаць, а рабіць.

**Падрыхтаваў Сяргей АНДРЭЕЎ.**



Фота з архіва Уладзіміра ГАНЧАРЫКА.

**Уладзімір Ганчарык пры выпадку любіць пабываць на прыродзе, пасядзець ля вогнішча.**

# Сорак год разам

**Прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Уладзімір Ганчарык у побыце непераборлівы: любіць боршч, яешню са скваркамі, бульбу са студнем... Асабліва, калі ўсё гэта прыгатавана ягонай жонкай Ліліяй Антонаўнай. Разам яны ўжо болей як 40 год.**



Фота з архіва Уладзіміра ГАНЧАРЫКА.

**Уладзімір Ганчарык з жонкай Ліліяй.**

Я - адналюб, - прызнаецца лідар беларускіх прафсаюзаў. - Маё першае і адзінае каханне - мая жонка.

А Лілія Антонаўна кажа, што пакахала мужа за прыстойнасць і сціпласць, самастойнасць і акуратнасць.

Яны згулялі вельмі сціплае студэнцкае вяселле. У Ліліі Антонаўны была толькі мама. Уладзімір Іванавіч - са шматдзетнай і небагатай сялянскай сям'і. Распісаліся ў Кастрычніцкім ЗАГСе Мінска.

- Аднакурснікі падарылі ключы ад пакоя, у якім мы і пражылі «мядовы год», - узгадвае Лілія Антонаўна. - Пакуль мы хадзілі ў ЗАГС, нашыя ложкі і чамаданы з рэчамі тайна перанеслі ў новае жыллё. Пакойчык быў маленькі; паміж двума вузенькімі ложкамі ледзь можна было прайсці. Але мы, ссунуўшы ложкі, умудрыліся размясціць у пакоі яшчэ і маленькі столік, на якім рыхтаваліся да заняткаў. Там жа стаяла і электраплітка. Нам падавалася, што гэтага для шчасця дастаткова. Наогул, белых «мерсэдэсаў» нам не дарылі, - смяецца жонка Уладзіміра Ганчарыка.

Ганчарыкі часта пераязджалі, ледзьве паспявалі распакоўваць клункі. Уладзіміру Ганчарыку неаднойчы прапаноўвалі заняць у Маскве пасаду вышэй.

- Але мы, напэўна, - занадта беларусы, - тлумачыць Лілія Антонаўна. - Можа быць, некага і вабіла Масква, а мы не ўяўлялі сабе жыцця па-за межамі Беларусі.

Лішкаў у сям'і Ганчарыкаў ніколі не было, але і не галадавалі. Вельмі цяжка даводзілася, калі Уладзімір Іванавіч вучыўся ў Маскве. Лілія Антонаўна прызнаецца, што заўсёды заахвочвала яго ў падобных пачынаннях. Дагэтуль шкадуе, што з-за сваёй загружанасці па рабоце муж так і не стаў абараняць доктарскую дысертацыю.

Зараз Уладзімір Іванавіч і Лілія Антонаўна - уладальнікі прыватызаванай трохпакаёвай кватэры. Машыну «Волгу» (ёй было ўжо 11 гадоў) прадалі нядаўна амаль за бясцэнак. У спадчыну перайшоў Ліліі Антонаўне домік яе матулі. Даволі сціплы. Хаця звонку глядзіцца прывабна: ці то ад таго, што пафарбаваны ярка, ці то ад багацця колераў вакол. А ўвогуле пабудаваны дом з недарагіх матэрыялаў. Шмат што майстравалі сваімі рукамі.

- Суседкі расказваюць, што людзі на аўтобусным прыпынку ўсё спрабуюць разгледзець катэдж кандыдата, - гаворыць Лілія Антонаўна, - указваюць то на адзін вялікі дом, то на другі, а наш маленькі папросту не заўважаюць.

- Ці лёгка далося Уладзіміру Іванавічу рашэнне аб вылучэнні сваёй кандыдатуры на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах?

- Я думаю, не. Яго падштурхнула да гэтага непрыстойнасць уладаў. Хлусні, няпраўды і «беспредела» ён не трывае па сваёй натуры. Мне было вельмі цяжка пагадзіцца з рашэннем мужа. Я прасіла спярша добра падумаць. Калі б грамадства на самой справе было дэмакратычным, не было б у мяне гэтых сумневаў і трывог. А так... Усе людзі, што здольныя былі супрацьстаяць сённяшняму рэжыму, альбо зніклі, альбо памерлі пры загадкавых абставінах. Але Уладзімір Іванавіч упэўнены ў сваіх сілах.

Уладзіміра Іванавіча спрабуе падтрымаць у перадвыбарны час уся сям'я. Усе сталі крыху забабоннымі. Унук Максім, які днямі адсвяткаваў паўналецце, кажа, што нічога не загадвае, проста баіцца сурочыць. Затое не робіць таямніцы з таго, што на выбарчым участку прагаласуе за дзядулю. Цяпер у Максіма ёсць права голасу.

**Занатавала Вераніка ЛУГІНА.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

**Ірына САХАЦКАЯ.**



**Па гарызанталях:** 3. Нанясенне ўдару носам карабля, вінтом самалёта і да т. п. 8. Буйны землеўладальнік. 9. Зварот да мужчыны ў ЗША. 11. Памяшканне для стральбы. 13. Буйны каменнавугальны басейн у Германіі. 14. Лёгкі двухколавы экіпаж. 16. Лёгкая незласлівая насмешка. 17. Высокі мужчынскі голас. 19. Будынак для захоўвання і малацьбы снапоў. 22. Разрыўны сродак. 23. Сорт яблыні. 24. Неэтычны чалавек. 25. Невысокае ўзвышша з роўнай паверхняй. 26. Зброя ў выглядзе доўгага дрэўка. 29. Нотны знак. 30. Бясколерны газ з едкім непрыемным пахам. 31. Пасудзіна для купання. 33. Орган мочавывядзення ў чалавека. 34. Навука, што вывучае геаграфічныя назвы. 35. Перадача мяча ў футболе. 37. Ацэначны крытэрый. 38. Спявак, які выступае адзін. 40. Каўпак на лямпе. 41. Тварам да таго, хто сядзіць спераду.

**Па вертыкалях:** 1. Востры дасціпны выраз. 2. Перыяд гульні ў футболе. 4. Невялікі рэстаран, дзе абслугоўваюць за стойкай. 5. Памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў. 6. Чалавек, які адмаўляецца ад жыццёвых задавальненняў. 7. Кіраўнік мініцыпалітэта. 8. Ёлачнае ўпрыгожанне. 10. Віртуозны перакат у спевах. 12. Ганаровае дваранскае званне. 14. Буйны ўчастак сушы. 15. Прастора зямлі з пэўнымі межамі. 18. Хваёвае дрэва. 19. Група людзей, якія імкнуцца любымі сродкамі дасягнуць мэты. 20. Грамата ханаў Залатой Арды і Крымскіх ханаў (XIII-XV стст.). 21. Картка з пытаннямі на экзаменах. 27. Травяністая трапічная расліна з буйным плодам. 28. Драпежнік гарачых краін, які корміцца мярцвячынай. 29. Урач. 32. Месца ў пустыні, дзе ёсць вада і расліннасць. 33. Марка аўтамабіля. 36. Прыстасаванне ў выглядзе нацягнутай на абруч сеткі для лоўлі рыбы. 37. Штучна ўзнятая шуміха вакол чаго–небудзь. 39. Баявая гусенічная бранявая машына. 40. Замкнутая крывая лінія без вуглавых пунктаў.

### Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №35

**Па гарызанталях:** 1. Кулеш. 5. Ка. 7. Кулямёт. 13. Удаў. 14. Рана. 16. Лад. 17. До. 18. Пасрэднік. 20. Іон. 21. Аркан. 22. Саксаул. 25. Аператар. 28. Енк. 30. Лі. 31. Ерэтык. 32. Цнота. 34. Бег. 35. Анапа. 38. Елка. 39. Бацік. 41. Клака. 43. Ат. 44. Бар. 45. Ява. 47. Рыба. 48. Чэ. 49. Дар. 51. Асананс. 55. Рыцарства. 57. Кран. 59. Альпы. 60. Рагожка. 63. Сі. 64. Кібітка. 65. Барс. 67. Нара. 68. Орган. 70. Ом. 72. Фа. 73. Аркуш. 74. Антонім.

**Па вертыкалях:** 1. Купалле. 2. Удар. 3. Ласка. 4. Еўрапеец. 5. Кантата. 6. Ані. 8. Улік. 9. Лаосец. 10. Яднанне. 11. Ёд. 12. Ток. 15. Аксакал. 19. Энергія. 23. Ар. 24. Укол. 26. Рэ. 27. Тынк. 29. Заатэхнік. 33. Ткач. 34. Барацьба. 36. Пара. 37. Акын. 39. Бадыліна. 40. Квас. 42. АБС. 46. Астра. 50. Рапіра. 52. Ава. 53. Нагар. 54. Яр. 55. Рак. 56. Рытар. 57. Кар. 58. Ас. 61. Жбан. 62. Кант. 66. Сон. 68. Ош. 69. Га. 71. Мі.

## Гараскоп 10 – 16 верасня



**Авен**
(21.03–20.04)

Будзе працягвацца перыяд клопатаў. Вы будзеце хапацца за ўсе справы адразу, і ў выніку нічога не паспееце зрабіць. Аднак вашае асабістае жыццё будзе напоўненае такім шчасцем і задавальненнямі, што ўсе вытворчыя праблемы адыдуць на другі план. Але вам трэба звярнуць увагу на здароўе.



**Цялец**
(21.04–21.05)

12 верасня пачнецца імклівы паток падзей, якія заклікаюць вас неадкладна перагледзець свае адносіны да шматлікіх пытанняў і вызначыцца ў выбары мэтаў. Аднак вам трэба ўлічваць, што вы можаце разгубіцца і не выкарыстаць магчымасці, якія адкрыюцца перад вамі.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

З 12 верасня адкрываецца перыяд лёгкага прасоўвання наперад. Будзе такое ўражанне, што ў вас не засталося ні праціўнікаў, ні апанентаў. Нямала ўзрадуюць малодшыя члены сям'і, а старэйшыя не будуць раздражняць сваёй варкатнёй.



**Рак**
(22.06–23.07)

Істотна ўзрасце цікавасць да сямейных справаў і партнёрскіх адносінаў паблізу 13 верасня. Магчымая доўгачаканая сустрэча, якая ўзрадуе вас сюрпрызамі і падарункамі. Наогул, гэты перыяд будзе адзначаны ўзмоцненым рухам усіх партнёрскіх праграм, у тым ліку, і ў дзелавой сферы.



**Леў**
(24.07–23.08)

З 12 верасня вы будзеце заклапочаныя больш за ўсё сваім здароўем. Нават самыя моцныя Львы могуць падвергнуцца недамаганню. Правядзіце выхадныя дні як мага больш спакойна. Пабудзьце сам-насам з прыродай, сям'ёй.



**Дзева**
(24.08–23.09)

З 12 верасня актывізуюцца творчыя сілы. Дзевы, занятыя ў сферы мастацтва, навукі і адукацыі, будуць поўныя энергіі і жадання эксперыментаваць. Магчымае паступленне грошай. Добры перыяд для мужчын, якія могуць стаць прадметам уздыханняў тых дам, у якіх даўно закаханыя самі.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Тыя з вас, хто пачне ў гэты час рамонт, не памыляцца. Па–першае, вы цяпер настроены на стварэнне і абуладкаванне (а што можа быць важнейшае за сям'ю і дом?), а па-другое, іншыя справы проста не пойдуць. Акрамя таго, вы можаце што-небудзь выйграць у латарэю.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

12 верасня пачнецца чарговы віток творчай і інфармацыйнай актыўнасці. Вы будзеце эфектыўныя (і эфектныя!) у зносінах. Аднак можаце нашкодзіць сабе залішняй паспешнасцю. Трымайцеся ў гэты перыяд яркіх і неардынарных асоб.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Пачнецца прасторавае (літаральна!) садзеянне рашэнню ўсіх вашых эканамічных праграм. І перыяд гэты будзе працягвацца каля двух месяцаў. Не раім вам упусцаць шанц істотнага ўмацавання фінансавага становішча. Вы зможаце значна ўсталяваць дабрабыт сваёй сям'і і фірмы.



**Казярог**
(22.12–20.01)

З 12 верасня пачнецца дзіўная работа ў вашым унутраным свеце, умяшанне волі будзе лішняе. Паспрабуйце пераарыентаваць увагу на ўсё ўнутранае, і тады вы ўбачыце, што ўсе знешнія падзеі – толькі адлюстраванне стану душы.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

12 верасня адкрые ўнутраныя шлюзы, і вы адчуеце небывалы прыток унутранай сілы, якую зможаце накіраваць на любую справу. У гэтыя дні будуць расстаўленыя кропкі над "і" у вашым лёсе. Не варта супраціўляцца таму, што адбываецца, нават калі гэта вам не вельмі падабаецца. Значыць, так трэба. Перш за ўсё, вам.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Надзвычай спакойны, калі не сказаць, "мёртвы", перыяд, у які не адбудзецца нічога значнага або цікавага. Наогул, калі вы чалавек справы, то атрымаеце простую перадышку ў рабоце і зможаце намеціць планы на будучае. Што, бясспрэчна, добра.

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Статыстыка паўгоддзя

**МАЛАДЗЕЧНА. Найбольш нездавальняючымі па арганізацыі аховы працы на Маладзечаншчыне з'яўляюцца калгасы "За ўладу Саветаў", "Бацькаўшчына", "Кастрычнік", "Маркава", "Лебедзева", "Усход".**

Няшчасныя выпадкі сёлета адбыліся ў калгасах "Усход", СПК "Беразіна", "Лебедзева". Прадпісаннямі дзяржінспектараў прыпыненая работа 251 адзінкі абсталявання: станкоў, сельгасмашын. Забароненая работа дрэваапрацоўчага ўчастка калгаса "Лебедзева" і цялятніка калгаса "Усход" у Выверах. Прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці 44 адказныя асобы – штрафы склалі 231000 рублёў. Прымененыя эканамічныя санкцыі да 13 наймальнікаў на суму 274200 рублёў за невыкананне прадпісанняў, няшчасныя выпадкі, нявыплату заработнай платы ў тэрмін.

Найбольш небяспечным прадпрыемствам па цяжкім і смяротным траўматызме па Маладзечанскім раёне быў РУП "Баластны кар'ер Радашковічы". Там у выніку няшчаснага выпадку загінуў драбільшчык.

Эканамічны стан калгасаў раёна па-ранейшым вядзе да нарошчвання запазычанасці па выплаце зарплаты і невыканання мерапрыемстваў па ахове працы, па стварэнні бяспечных умоў працы. Ва ўсіх калгасах раёна эксплуатуюцца станкі, сельгасмашыны з тэрмінам эксплуатацыі больш за 20 год і зносам больш за 80%.

У Маладзечне смяротных выпадкаў, звязаных з вытворчасцю, пакуль не зарэгістравана. За мінулыя 8 месяцаў былі 4 цяжкія траўмы.

Па Мінскай вобласці сёлета на вытворчасці загінулі 22 чалавекі. Гэта ў 1,5 раза вышэй за леташні паказчык. У краіне такіх выпадкаў – 130.

**Вера СУМІНА,**
**дзяржінспектар працы.**

■ 75 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У «БЕЛАРУСКАЙ КРЫНІЦЫ»

## Наша жыцьцё

М-ка Лаварышкі, Віленск. пав. Задумала я напісаць аб жыцьці нашае моладзі ў Лаварышках, хай сьвет пачуе, як цёмна і дзіка ў нашай старонцы. Нягледзячы на тое, што сярод нас ёсьць цэлыя масы сьвядомых людзей беларусаў, а такжа і такіх якія маглі б весьці асьветную працу сярод сваіх братоў. Моладзь нашая, асабліва хлопцы, ня маючы чым іншым заняцца, забіваюцца атрутай, гарэлкай сьвятамі, напіўшыся, разьбіваюць сабе галовы каменьнямі ды бутэлькамі...- Жыцьцё наагул прадстаўляецца шэра.

Мушу адзначыць, што родам з нашых Лаварышак пасолом у Сэйм ёсьць Браніслаў Тарашкевіч. Усе сьвядомыя беларусы маюць вялікі жаль да пасла Тарашкевіча, бо за ўвесь час свайго пасольства ні разу не адведаў сваіх братоў і дзядзьку і ня даў справаздачы за сваёй Соймавай працы.

**Л-а**
**Беларуская крыніца,**
**24 ліпеня 1926 г.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227, выдадзенае 4.09.2001 г.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8140 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№36 (333) 7.09.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 6.09.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»